# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 12 (264) | ГОД VI | БЕЛАСТОК 19 САКАВІКА 1961 ГОДА | ЦАНА 60 ГР.


НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

## АБ БЕЛАСТОЧЧЫНЕ (якая ёсць і якая будзе) ГУТАРЫМ З І-шым САКРАТАРОМ ВК ПАРП



У таварыша Лашэвіча, І-шага сакратара Ваяводскага камітэта Польскай Аб'яднанай Рабочай партыі ў Беластоку інтарасантаў і работы хоць адбаўляй. Але і для «Нівы» таксама трэба знайсці час. І вось мы ў яго кабінеце.

— Толькі не «мучце» доўга, — жартуе ён, вітаючыся.

Каб не забіраць Сакратару дарма цэннага часу, прыступаем да справы:

**— Паколькі Вы з'яўляецеся кандыдатам у паслы да Сейма з Беластоцкай выбарчай акругі, просім адказаць нам на некалькі запытанняў. Нам вядома, што Вы ўжо з юнацкіх год звязаны з Беласточчынай. Ці не маглі б Вы аб гэтым шырэй расказаць нашым чытачам?**

— З Беласточчынай звязаны я ад дзяцінства. Адсюль паходзяць мае бацькі, тут я правёў сваё дзяцінства і маладосць, тут сустрэўся з камуністычным маладзёжным рухам і паставіў першыя крокі ў грамадска-палітычнай дзейнасці. Я лічу сябе беластачанінам.

**— У мінулым годзе ў Мінску выйшла кніжка Язэпа Зазекі «Партызанскія сцежкі», прысвечаная камсамольцам Беластоцкага партызанскага злучэння. У перапісцы з яе аўтарам мы даведаліся, што Вы таксама прымалі ўдзел у партызанскім руху.**

(Працяг на стар. 3)

**Тав. А. Лашэвіч нарадзіўся ў 1916 г. у сям'і селяніна-серадняка. З маладых год удзельнічае ў камуністычным руху. У 1935 г., калі ён быў вучнем Віленскай гімназіі, яго арыштоўваюць і саджаюць у турму. За часоў савецкай улады вучыцца ў Педагагічным інстытуце ў Беластоку. Падчас нямецкай акупацыі супрацоўнічае з партызанамі. Пасля вызвалення ўзначальвае ў Беластоку Ваяводскае праўленне інфармацыі і прапаганды, затым з'яўляецца старшынёй Камісіі партыйнага кантролю. Ад 1949 г. да 1952 г. працуе ў Цэнтральным Камітэце Польскай Аб'яднанай Рабочай партыі членам Камісіі партыйнага кантролю. Працуючы ў Варшаве, заканчвае Акадэмію палітычных навук. Ад 1952 г. да 1956 г. з'яўляецца І-шым сакратаром ВК ПАРП у Жэшове, а ад 1956 г. — у Беластоку.**



БЕЛАСТОК НОЧЧУ. фота — В. Гжэгорчык



БЕЛАСТОК. РЫНАК КАСЦЮШКІ. фота — Г. Рагазінскі

А як у Беластоцкім павеце?...

## АРЫФМЕТЫКА ФАКТАЎ

**Беластоцкі павет абымае тэрыторыю 223.638 гектараў. Жыве ў ім 88.615 асоб. Амаль 70 прац. насельніцтва займаецца апрацоўкай зямлі. Найбольш у павеце сярэдніх гаспадарак. Да 1939 г. абшарніцкія маёнткі займалі каля 6 000 гектараў найлепшай зямлі. Зараз гэтая зямля перайшла ва ўладанне беззямельных і малазямельных сялян.**

### СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

Як вядома, асноўнымі фактарамі развіцця сельскай гаспадаркі з'яўляецца рацыянальнае ўгнаенне, тэрміновае выконванне ўсіх прац, высокапастаўленая гадоўля, механізацыя і меліярацыя. Як гэтыя фактары ажыццяўляюцца ў Беластоцкім павеце?

У мінулым годзе сяляне павета скарысталі 416 тон фосфарных, звыш 1000 тон калійных і 787 тон азотных штучных угнаенняў чыстага хімічнага складу.

У параўнанні, напрыклад, з 1955 г. скарыстана зараз 2,5 раза больш штучных угнаенняў, а вапняку нават звыш сямі разоў больш. Плануецца, што ў 1965 годзе скарыстанне штучнага ўгнаення ўзрасце ў 2,5 разоў у параўнанні з мінулым годам.

На тэрыторыі павета існуе зараз 19 водных суполак. Яны гуртоўваюць звыш 2 тыс. членаў. У жніўні мінулага года быў пакліканы Павятовы саюз водных суполак. Быў ён тады трэцяй гэтакай установай у Польшчы. Арганізаванне шырокай сеткі водных суполак неабходнае для правільнага карыстання з меліярацыйнага абсталявання, для аховы і кансервацыі гэтага абсталявання. У Беластоцкім павеце меліярацыйныя працы былі праведзены сапраўды ў шырокім маштабе. На меліярацыю толькі за апошнія 4 гады прызначана звыш 35 мільёнаў злотых. Трэба тут адзначыць значны ўдзел самых сялян у меліярацыйных працах. Грамадскім чынам выканалі яны працу, за якую трэба было б заплаціць звыш 4 мільн. зл.

Апрача меліярацыі, развіццю жывёлагадоўлі спрыяе пастаянны рост пасеваў прамысловых, прапашных, струковых і кармавых культур за кошт збожжавых раслін. Таму і лік кароў і іншай жывёліны, які прыпадае на 100 га зямельных угоддзяў, ёсць у Беластоцкім павеце надта высокі і ў далейшым плануецца пастаянны рост жывёлагадоўлі. Прадбачваецца, што ў 1965 годзе на кожныя 100 гектараў зямельных угоддзяў гадавацца будзе па 47 кароў, 71 свіней і 24 авечак.

Механізацыя сельскагаспадарчых прац — гэта для сялян Беластоцкага павета ўжо не якаясьці навінка, але штодзённая патрэба. Сведчаць аб тым шмат фактаў. Штораз часцей каня заступае яго сталёвы брат. Зараз на тэрыторыі павета працуе 127 трактараў. Толькі адны сельгасгурткі набылі 13 трактараў з поўным кампletам сельскагаспадарчых прылад.

Перспектывы механізацыі сельскай гаспадаркі сапраўды шырокія. Ужо зараз у распараджэнне сельскагаспадарчых гурткоў, якія ў Беластоцкім павеце згуртоўваюць звыш 2 тыс. членаў, прызначана 14 мільёнаў 546 тыс. зл. фонду развіцця сельскай гаспадаркі. Гэты фонд, які прызначаецца выключна на механізацыю сельскай гаспадаркі, у 1965 годзе ўзрасце да звыш 64 мільёнаў злотых. Да 1965 года пры кожнай грамадскай радзе будзе пабудаваная агранамоўка, што дазволіць практычна скарыстоўваць навейшыя дасягненні агратэхнічнай навукі.

З механізацыяй непарыўна звязана электрыфікацыя вёсак.

(Працяг на стар. 2)

## ТАК ЗБЯРЭШ

**...ходніх паветах толькі на Бельшчыне прадбачваецца зрабіць замкнуты раён для вырошчвання прамысловай бульбы.**

Дзяржава, як было сказана, даплачвае да кожнага абмененага цэнтнера збожжа і бульбы. Але адкуль ведаць, хто і колькі абмяніў? Колькі трэба яму заплаціць? Зрэшты, дакладны кантроль трэба весці і таму, каб не было ніякіх спробаў злоўжывання і ашуканства. **Таму кожны гаспадар, які абавязваецца весці рэпрадукцыйную гаспадарку, або знаходзіцца ў замкнутым раёне, мусіць весці «кніжку абмену». У гэтай кніжцы дакладна павінна быць запісана каму, калі, колькі і якога сеўнага матэрыялу абмяніў прадуцэнт высокаякаснага насення. Запіс павінен быць пацверджаны солтысам і старшынёю ГРН.**

Усе гэтыя мерапрыемствы, аб якіх была размова, не з'яўляюцца ніколі нейкай «гульнёю» для заварочвання галавы сялянам. Вядома, што сельская гаспадарка ў Польшчы, а асабліва ў Беластоцкім ваяводстве, ёсць адной з найбольш адсталых гаспадарак у Еўропе. Гэтыя мерапрыемствы з'яўляюцца адным з рычагаў, які дапаможа нашай сельгасвытворчасці дасягнуць еўрапейскага ўзроўню. Таму ўсе ўстановы, непасрэдна ці пасрэдна звязаныя з сельскай гаспадаркай, маюць абавязак пільна сачыць за дакладным ажыццяўленнем гэтых мерапрыемстваў.

**В. Рудчык**

## ГРАМАДСКІЯ ЧЫНЫ —ВЯЛІКАЯ СПРАВА

Няцэлы месяц часу дзеліць нас ад вялікай даты — ад выбараў у Сейм і рады нарадовыя. Выбярэм новых паслоў і радных. Гэта будзе наступная кадэнцыя нашай народнай улады. Зараз усе палітычныя арганізацыі, аб'яднаныя ў Фронце адзінства народа, супольна з усёй грамадскасцю падсумоўваюць дзейнасць мясцовых рад нарадовых, іх дасягненні і арганізатарскія здольнасці. І трэба адзначыць, што ў некаторых паветах мабілізацыйная роля рад нарадовых і ўсіх радных праявілася з вялікаю сілаю. Гэта асабліва відаць у ініцыятыўнасці грамадскіх чынаў.

У Гайнаўскім павеце найшырэйшы размах мелі дарожныя грамадскія чыны. Дзякуючы актывізацыі мясцовага насельніцтва, у рамках грамадскага дарожнага чыну пабудавана брукаваная дарога Навасады — Нарва даўжынёй 13 км, жвіраваная дарога Гайнаўка — Кляшчэлі — 25 км, Нараўка — Альхоўка — 6 км і Палічна — Кляшчэлі — 7 км, а таксама многа іншых кароткіх адрэзкаў дарог. Да 1960 года агульны ўклад насельніцтва Гайнаўшчыны ў грамадскія дарожныя чыны складаў суму 39.037.000 зл.

Да 1960 года разам з дзяржаўнымі датацыямі кошт дарожнага будаўніцтва складае 44.007.000 зл. Пабудавана звыш 40 км брукаваных дарог і звыш 97 км жвіраваных дарог. Апрача таго пабудавана вуліцы ў 57 вёсках агульнай даўжынёю 26 км. Пабудавана таксама 104 мастоў даўжынёй 485 м, у гэтым жалезабетонных мастоў — 11. Усе важнейшыя адрэзкі дарог абсаджаны дрэўцамі.

Як бачым, насельніцтва Гайнаўшчыны ўнясло вялікі ўклад у дарожнае будаўніцтва. А дарогі з'яўляюцца хвалюючай спраўай перш за ўсё для сялян. І ў гэтай галіне многа ўжо зроблена на Гайнаўшчыне, аднак многа таксама яшчэ трэба зрабіць. І вось таму на гады 1961—65 запланавана далейшае дарожнае будаўніцтва. У гэты час будзе аддана да эксплуатацыі дарога Збуч—Кленікі даўжынёй 6 км, Дубічы Царкоўныя — Грабавец — 3,6 км, а таксама 6 мастоў даўжынёй 55 км. Вартасць праектаваных работ складзе 10.340.000 зл.

Запланавана таксама ў цяперашняй пяцігодцы выбрукаваць вуліцы ва ўсіх астатніх вёсках, даўжыня якіх складзе 23,5 км.

У рамках грамадскіх чынаў і пры дапамозе дзяржавы будуюцца не толькі дарогі. Пабудавана лазня Кляшчэлях і будуецца лазня ў Белавежы. Насельніцтва Гайнаўшчыны грамадскім чынам дапамагае дзяржаве будаваць школы, святліцы, а таксама вясковыя крамы.

Трэба адзначыць і тое, што ад 1955 г. да 1960 г. грамадскім чынам пасаджана 588 га лесу. А гэта таксама не мала.

Безумоўна, што многа залежыць ад грамадскіх рад нарадовых, ад усіх радных, ад таго, як далей патрапяць яны мабілізаваць ініцыятыву шырокіх мас да выканання новых заданняў. Вось таму неабходна імкнуцца да таго, каб да рад нарадовых наступнай кадэнцыі ўвайшлі самыя найлепшыя, самыя ахвярныя людзі з выдатнымі арганізацыйнымі здольнасцямі.

**М. Х.**



## Кіно таксама неабходнае

Няма патрэбы даказваць, якое агромнае значэнне мае кіно ў выхаванні людзей, у задавальненні іх культурных запатрабаванняў. Народная ўлада вялікую ўвагу звяртае на арганізаванне і будаванне новых памяшканняў пад кіно. У гэтай дзялянцы ў Беластоцкім ваяводстве вельмі многа зроблена. Усім вядома, што гітлераўскія захопнікі страшна знішчылі ўсе гарады, мястэчкі і многія вёскі. Яны не аставілі цэлым ніводнага будынка кіно. Усё трэба было рабіць ад пачатку.

У 1945 годзе на Беласточчыне існавалі 4 кіно: ў Беластоку, Гайнаўцы, Сувалках і Ломжы. Гэта так выглядала справа 16 год таму назад.

А зараз? Зараз на Беласточчыне існуе 113 кіно. І так, вясковых кіно на Беласточчыне існуе 60, мястэчковых 53 і аб'язных 18, якія кожны месяц абслугоўваюць 414 вёсак. На фільмах пабывала ў 1960 годзе 4.823.384 чалавек. З кожным годам колькасць кіно ўзрастае. У мінулым пяцігоддзі пабудавана новыя памяшканні пад кіно ў Замброве і Галдапі. Адаптавана пад кіно таксама два будынкі, а менавіта «Сырэна» ў Беластоку і «Палёнія» ў Элку. Нядаўна адкрыта новае кіно ў вёсцы Навасады, на Гайнаўшчыне.

У 1961 — 65 г.г. будуць пабудаваны новыя, па-сучаснаму абсталяваныя, будынкі кіно ў Гайнаўцы і Боцьках на Бельшчыне. Яны будуць падобныя да дамоў культуры. Адначасова будзе там памяшканне пад бібліятэку і святліцу. У залежнасці ад патрэб будзе магчымасць павялічваць залу святліцы ці бібліятэкі, таму што плануецца пабудаваць спецыяльныя рухомыя сцены. Пачакальню можна будзе выкарыстаць на забавы. А тады, калі не дэманструецца фільм, можа яна служыць як чытальня. Адным словам памяшканні ў гэтым будынку будуць мець многа прызначэнняў.

Калі такія своеасаблівыя дамы культуры здадуць экзамен у Гайнаўцы і Боцьках, дык падобныя будынкі будуць будавацца ў іншых мястэчках, асадах і вялікіх вёсках.

**М. Х.**

**На здымку ўверсе ўваход у кіно «Сырэна» ў Беластоку.**

фота — **Л. Майсеюк.**

— Можаце сесці. Я не адобрываю вашага выбару, лейтэнант! Калі ўсе нашы афіцэры будуць бараніць дзяўчын з пераможаных народаў, хто ж тады будзе працаваць у нашай прамысловасці?

—Фрейлейн — арыйскай крыві, — ветліва засупярэчыў Кузняцоў.

— Вы ўпэўнены?

— Я ведаў яе бацьку. Небарака паў ахвярай бандытаў.

Уважлівы позірк гаўляйтэра ўпаў на жалезныя крыжы афіцэра, на круглы значок са свастыкай.

— Вы член нацыянал-сацыялісцкай партыі?

— Так точна, гэр гаўляйтэр.

— Дзе атрымалі крыжы?

— Першы ў Францыі, другі на Остфронце.

— Што робіце цяпер?

— Пасля ранення часова працую па забеспячэнню свайго адрэзка фронта.

— Дзе ваша часць?

— Пад Курскам.

— Пад Курскам?

Востры позірк Коха сустрэўся з позіркам Кузняцова.

— І вы — лейтэнант, франтавік, нацыянал-сацыяліст — збіраецеся жаніцца на дзяўчыне няпэўнага паходжання?

— Мы заручаны, — сказаў Кузняцоў. — І я павінен атрымаць водпуск і збіраюся з нарачонай да маіх бацькоў, прасіць іх благаславення.

— Дзе вы радзіліся?

— У Кенігсбергу.

— Пасля вайны маеце намер вярнуцца да бацькоў?

— Не, я вырашыў застацца ў Расіі.

— Вам падабаецца гэта краіна?

— Мой абавязак — рабіць усё, каб яна падабалася нам усім, гэр гаўляйтэр!

— Добры адказ! — пахвальна заўважыў гаўляйтэр і падсунуў да сябе заяву Валі.

У гэтае імгненне Кузняцоў першы раз з такой вастрынёй фізічна адчуў ляжачы ў правай кішэні нагавіц узведзены «вальтэр». Рука паволі каўзанула ўніз. Ён падняў вочы і ўбачыў вышчараную пашчу аўчаркі, убачыў насцярожаных гестапоўцаў. Здавалася, усе позіркі скрыжаваліся на гэтай руцэ, якая паўзла да кішэні і тут застыла.

Не, страляць — ніякай магчымасці. Не дадуць нават апусціць руку ў кішэню, не тое што выхапіць яе з пісталетам.

Між тым гаўляйтэр працягвае:

— Чалавеку, які збіраецца прысвяціць жыццё асваенню ўсходніх земляў, карысна тое сёе запомніць. Як вы думаеце, лейтэнант, хто для нас тут больш небяспечны, украінцы ці палякі?

У лейтэнанта ёсць і на гэта сваё меркаванне.

— І тыя, і другія, гэр гаўляйтэр! — адказвае ён.

— Мне, лейтэнант, трэба зусім не многа, — працягвае Кох. — Мне трэба, каб паляк пры сустрэчы з украінцам забіваў украінца і наадварот, каб украінец забіваў паляка. Калі яшчэ па дарозе яны прыстрэляць яўрэя, гэта будзе як раз тое, што мне трэба. Вы мяне разумееце?

— Тонкая думка, гэр гаўляйтэр!

— Нічога тонкага. Усё вельмі проста. Некаторыя празмерна наіўна прадстаўляюць сабе германізацыю. Яны думаюць, што нам патрэбны рускія, украінцы і палякі, якіх мы прымусілі б гаварыць па-нямецку. Але нам не патрэбны ні рускія, ні украінцы, ні палякі. Нам патрэбны ўраджайныя землі. Мы будзем германізаваць зямлю, а не людзей! Тут будуць жыць немцы!

Ён пераводзіць дух, уважліва глядзіць на лейтэнанта.

— Аднак, я бачу, вы не моцны ў палітыцы.

— Я салдат і ў палітыцы не разбіраюся, — скромна адказаў Кузняцоў.

— У такім выпадку кіньце путацца з дзяўчынамі і вяртайцеся хутчэй у сваю часць. Тым больш, што на вашым адрэзку фюрэр рыхтуе сюрпрыз бальшавікам. зразумела, аб гэтым не трэба малоць.

— Можаце быць спакойны, гэр гаўляйтэр!

— Які настрой у вашых таварышаў на фронце?

— О, усе поўны рашучасці! — бадзёра адказвае лейтэнант, гледзячы ў вочы гаўляйтэру.

— Шматлікіх напалохалі нядаўнія падзеі?

— Сталінград? — Лейтэнант змаўкае, ці то збіраючыся з думкамі, ці таму, каб набраць паветра і адным духам выпаліць тое, што думае: — Ён умацаваў наш дух!

Гаўляйтэр яўна задаволены такім аптымістычным адказам. Ён яшчэ раз цікаўным позіркам акідвае афіцэра і нарэшце бярэцца за заяву яго сяброўкі. Ён піша рэзалюцыю.

### ЧАКАЮЧЫ ВЫСТРАЛУ

...А Валя ў гэты час працягвала сядзець у прыёмнай. Яна не адрывала вачэй ад цяжкіх дзвярэй, напружана ўслухоўвалася ў кожны гук, кожную секунду чакала выстралу. «Вось зараз... — думала. — Вось зараз...» Не, яна не магла, не хацела пакінуць прыёмную гаўляйтэра. Хай яна тут непатрэбна, хай гэта — безразважнасць, за якую яна заплаціць жыццём, яна не магла пакінуць яго аднаго. Але чаму ён не страляе? Чаму ён марудзіць?

Яна выразна прадстаўляла сабе, што здарыцца пасля гэтага выстралу. Вось гэты жвавы афіцэрык, які прыстае да яе, першы схопіць яе. Ад'ютант — той кінецца ў кабінет. А што калі Кузняцоў пераб'е ахову?.. «Аўчарка! — успомніла Валя. — Аўчарка не дасць!..»

Валя чакала выстралу так, быццам ён абяцаў ёй і Кузняцову не смерць, а радасць і аблягчэнне. «Хутчэй! — у думках прыскарала яна Кузняцова. — Хутчэй!»

Адкрыліся цяжкія дзверы, і Кузняцоў вышаў з кабінета. Ён быў да крыўднасці спакойны і ўсміхаўся.

— Ну? — сказаў ён, падышоўшы да яе. — У руцэ ён трымаў лісток паперы, — яе заяву. Іх ужо акружылі афіцэры.

— Што вам напісаў гаўляйтэр?

— Пакінуць у Роўна, — прачытаў Бабах, — даць працу ў райхскамісарыяце.

— Чаму не стралялі? — спытала Валя, як толькі яны апынуліся на вуліцы.

— Гэта было немагчыма, Валюша. Ты ж сама бачыла, што там рабілася.

— Такой аказіі больш не будзе!

— Што зробіш!

— Што зробіш? Трэба было рызыкаваць! — Яна памаўчала і дадала: — Вы, напэўна, надта цэніце сваё жыццё.

Але Кузняцоў ужо думаў аб іншым: ён успомніў аб Курску! Дык Кох толькі што з Берліна — значыць весткі самыя свежыя!.. Успомніў ён і меркаванні Коха аб палітыцы на Украіне і, нарэшце, яго рэзалюцыю, дзякуючы якой Валя ад сёння рабілася супрацоўніцай райхскамісарыяту. Нечаканыя, але вартасныя вынікі дала гэтая сустрэча.

(Працяг за тыдзень)

